Opłata pocztowa uiszczono ryczałtem.

Цана асобнага нумару 20 грош.

# БЕЛАРУСКАЯ ДОЛЯ

Выходзіць тры разы ў тыдзень.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільня, Віленская вул. 12, п. 6.** (Wileńska 12, m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад **12** да **2** г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад **9** да **3** г.

Падпіска на **адзін месяц** з дастаўкай да хаты **2 зл.** Для заграніцы ўдвая даражэй.
**Перамена адрэса 30 грошы.**

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 гр., за радок пэтыту ў 1 шп

№ 8. Вільня, Серада, 28-га студзеня 1925 г. Год I.

## КСЕНІЯ КРАСІНСКАЯ

сяброўка Беларускае Драматычнае Майстроўні

памерла ў Вільні 25 студзеня 1925 г., пражыўшы 27 гадоў.

Пахавана там-жа на Ефрасінеўскіх могілках 27 студзеня.

**Беларуская Драматычная Майстроўня.**

## Сонная сэсія.

Неяк паціху, бяз ніякага шуму, распачалася пасьля Каляд бягучая сэсія Сойму. І паседжаньні яго—нейкія бледныя, няцікавыя, сонныя.

Гэта зусім зразумела. Пасьля таго, як Сойм даў дыктатарскія паўнамоцтвы ўраду п. Грабскага, апошні і выдае свае загады ў найважнейшых справах дзяржаўнага жыцьця—бяз Сойму. Для Сойму астаецца толькі бюджэт і тыя справы, якіх урад ня хоча браць на сваю выключную адказнасьць.

Вось, чаму Сойм ня прыкоўвае да сябе ўжо такое ўвагі народу, як было раней. І вось чаму цяпер, калі так мала спраў праходзе праз Сойм, мы бачым як-быццам нейкае *замірэньне паміж польскімі партыямі.* А адначасна тыя-ж партыі падгатаўляюць стварэньне *не прыпадковае* польскае большасьці, якая творыцца ў паадзінокіх прыпадках —пры галасаваньні аб тэй ці іншай справе ў Сойме, але *сталай*, зьвязанай аднэй праграмай і аднэй тактыкай. Стварэньне-ж такое большасьці—гэта канец ураду п. Грабскага, які ў такім выпадку павінен будзе аддаць уладу ў рукі *парляманцкага* ўраду, створанага гэнай большасьцяй.

Судзячы з газэтных вестак, у гэтым кірунку распачаў працу ізноў п. Вітас, правадыр польскіх сялян—багатыроў („кулакоў"). І зусім магчыма, што яго праца дасягне мэты.

Парляманцкае замірэньне паміж польскімі партыямі адбіваецца, аднак, вельмі блага на.. *„інародцах"*. І вось, як прыклад гэтага, перад намі гэткі цікавы факт.

Ген. Сікорскі, сучасны Міністар вайсковых спраў, апрацаваў і падаў у Сойм праект закона *аб прымусовым вывазе народнае маемасьці і выдаленьні насяленьня* з абшараў, якім *можа пагражаць* выбух ваенных падзей. А з прычыны таго, што, як гэта кожнаму ясна, ваенныя падзеі звычайна пачынаюцца на акраінах дзяржавы—на яе „Крэсах", дык гэты праект датыча перад усім іменна „крэсавых" зямель,—значыць, *беларускіх і украінскіх.* Ніжэй мы падаем цалком гэты праект, з зьместу якога лёгка пераканацца аб *небясьпецы*, якой правядзеньне яго ў жыцьцё можа пагражаць нашаму народу. Але соймавая камісія вайсковых спраў і не задумалася над тым, што ён суліць Заходняй Беларусі, ды украінскім землям, і прыняла яго *ўсемі польскімі галасамі.* І ня можа быць сумліву, што Сойм таксама яго рыме, бо гэта йдзе не аб польскае, а —аб „інароднае" насяленьне!

Справа законапраекту ген. Сікорскага праводзіцца ў вельмі сьпешным парадку. Яна вызначана на паседжаньне Сойму ў аўторак, 27 студня, і ў той мамэнт, як нашы чытачы атрымаюць нашу газэту, справа гэтая будзе ўжо скончана. І вось, учыніўшы гэты крок, узмацаваўшы спайку і салідарнасьць польскае большасьці Сойму—коштам інтарэсаў „Крэсаў", Сойм маніцца ізноў на даўжэйшы час спыніць свае паседжаньні—*заснуць...*

## На што йдуць нашы падаткі.

Пад такім загалоўкам украінская часопісь „Воля Народа" падае выбарку цікавейшых цыфр з бюджэту Польшчы, з якімі варта пазнаёміцца ў сувязі з апошнім выступленьнем п. Грабскага ў бюджэтнай камісіі, выкліканымі гэтым выступленьнем спрэчкамі.

Вось гэтыя цыфры.

Усіх выдаткаў мяціме польская дзяржава ў 1925 годзе **1.981.592.844 злот.** (блізу два міліярды). З гэтага выпадае: на міністэрства вайсковых спраў—640,500,000 злот. (640 міліёнаў з паловай); на міністэрства ўнутраных спраў—188.090.907 злот. (188 мільёнаў з лішкам), з чаго на паліцыю празначана 102.933.641 зл. (блізу 103 мільёны); на выдаткі прэзыдэнта дзяржавы—1.414.000 зл. (у тым яго асабістая пэнсія па 10.000 зл. на месяц); на соймавых дэпутатаў—4.608.412 зл.; на сэнатараў—1.181.080 зл. і г. д.

Дужа цікава выглядаюць так-званыя „дыспазыцыйныя фундушы", значыць, тыя выдаткі, з якіх ніхто нікому не дае справаздачы і якімі распараджаюцца паадзінокія міністры на свае тайныя мэты. Гэтыя грошы йдуць звычайна на аплачываньне розных тайных агентаў—у краю і заграніцай і на розныя другія справы, не падлягаючыя

## Праект уставу аб прымусовым вывазе насяленьня і прыватнае маемасьці з абшарау Гаспадарства, якім пагражаюць ваенныя апэрацыі.

*(Гл.: „Sprawozdanie Komisji Wojskowej", druk № 1587).*

**Арт. I.** У часе вайны, або калі пагражае выбух вайны, дзяржаўныя ўлады могуць загадаць прымусовы вываз прыватнае маемасьці з абшараў Гаспадарства, якім пагражаюць ваенныя апэрацыі.

Прымусоваму вывазу падлягае ўсялякая маемасьць, якая зьяўляецца ўласнасьцяй прыватных фізычных і юрыдычных асоб, а такжа юрыдычных асоб публічнага характару, паскольку гэтая маемасьць прадстаўляе асаблівую вартасьць для дзяржавы, перад усім з пункту гледжаньня абароны дзяржавы.

**Арт. 2.** Прымусовы вываз прыватнае маемасьці з вызначэньнем абшару загадывае, азначаючы род маемасьці, падлягаючае вывазу:

1) у часе пагрозы выбуху вайны—Рада Міністраў, па дакладу міністра вайсковых спраў,

2) у часе вайны—міністар вайсковых спраў у паразуменьні з заінтарэсаванымі міністрамі, а ў мясцовасьцях, прыналежачых да ваеннае тэрыторыі,—глаўнакамандуючы, ці-то ўпаўнамочаныя ім улады.

**Арт. 3.** Прымусоваму вывазу падлягае такжа насяленьне, аднак, толькі з мясцовасьцяў, абнятых беспасярэднімі ваеннымі апэрацыямі, і ў межах, неабходных дзеля спраўнага правядзеньня гэтых апэрацыяў.

Вываз насяленьня загадывае і вызначае межы гэтага высяленьня—Глаўнакамандуючы, ці-то ўпаўнамочаныя ім улады, пры чым насяленьню, падлягаючаму прымусоваму высяленьню, мае быць—колькі можна—дадзена магчымасьць забраць з сабой жывы інвэнтар і неабходныя спажыўныя прадукты.

**Арт. 4.** Вайсковыя ўлады, ці з іх упаўнамочаньня другія дзяржаўныя ўлады, могуць загадаць зьніштажэньне маемасьці, падлягаючай прымусоваму вывазу, вывязьці якое ў належным часе акажацца немагчыма, паскольку гэная маемасьць магла-б быць выкарыстана ворагам дзеля ваенных мэтаў.

**Арт. 5.** У мэтах прымусовага вывазу і звароту дзяржава дае патрэбную скольмасьць транспортных сродкаў і забясьпечывае дачэснае зьмяшчэньне вывезенае маемасьці і дачэснае памяшчэньне і ўтрыманьне для вывезенага насяленьня ў районах, якім не пагражаюць беспасярэднія ваенныя апэрацыі.

**Арт. 6.** За зьніштажэньне прыватнае маемасьці ў выпадку, азначаным у арт. 4, дзяржава выплачывае адшкадаваньне, установленае ацэначнымі камісіямі, дзеючымі, паводле прадбачанага „Уставам аб рэчавых сьведчаньнях" парадку. Да часу ўваходу ў жыцьцё гэтага ўставу спосаб паступаньня ў гэтай галіне будзе установлены загадам Рады Міністраў.

Гэты абавязак не абцяжае дзяржавы ў выпадках, калі зьнішчанае маемасьць ня была вывезена з віны ўласьніка ці асоб, дзеючых ад яго імя.

**Арт. 7.** Хто нарушыць загады, выданыя на падставе гэтага ўставу, або распараджэньні, выданыя на падставе гэтых загадаў, — будзе караны за праступак, калі дадзены ўчынак не падлягае цяжэйшай кары:

а) у б. расейскай і б. нямецкай часьці—вастрогам да 1 году і штрафам да 4.000 зл., ці аднэй з гэтых кар.

b) у б. аўстрыйскай часьці — сьцісьлым арыштам да 1 году і штрафам да 4.000 зл., ці аднэй з гэтых кар.

Побач з карамі, можа быць сканфіскавана маемасьць, падлягаючая вывазу.

**Арт. 8.** Выпаўненьне гэтага ўставу даручаецца міністру вайсковых спраў у паразуменьні з міністрам унутраных спраў і другімі зацікаўленымі міністрамі ў межах прыналежнае кожнаму з іх кампэтэнцыі, а ў адносінах да арт. 7—міністру справядлівасьці.

**Арт. 9.** Устаў уваходзе ў жыцьцё ад дня апублікаваньня.

